
нумары: Вялікая акцыя „Нівы" і „Грамады"

Літаратурная старонка

Фінал „ГАЗЕРАЎ"



# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 9 (418) | ГОД IX | 1 САКАВІКА 1964 г. | ЦАНА 60 ГР



# ЗАЧАРАВАНЫЯ ПАЭЗІЯЙ ТАНКА



Максім Танк у Варшаўскім аддзеле БГКТ.

Фота Р. Бранярэк

У Варшаўскім аддзеле БГКТ вельмі многа аматараў паэзіі. Згуртаваліся тут навуковыя працаўнікі і студэнты Кафедры беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце, а таксама група членаў Беларускага літаб'яднання. А калі ўжо мова аб паэзіі Максіма Танка — яе паклоннікамі з'яўляюцца ўсе беларусы. Ды не толькі беларусы. Доказ гэтага — шматлікія сустрэчы з насельніцтвам многіх гарадоў нашай краіны.

Прыезд Максіма Танка ў Польшчу па запрашэнню Галоўнага Праўлення Таварыства польска - савецкай дружбы ў сувязі з адзначэннем 45 гадавіны ўтварэння БССР выклікаў хваляванне ў нашым беларускім асяроддзі. Усе мы з нецярпеннем чакалі сустрэчы з дарагім госцем. Што Максім Танк нас не абміне, у гэтым мы неяк не сумняваліся. І сапраўды, у ТППР, у графіку сустрэч з паэтам, знайшлася клетачка і для Варшаўскага аддзела БГКТ.

Увечары — 6 лютага г.г. — у нас было незвычайнае свята. У памяшканне Таварыства прыбывае народ раней вызначанай гадзіны.

Неўзабаве паяўляецца ў дзвярах Максім Танк. Вітае яго бурнымі апладысментамі паўнюсенькая зала людзей. У нашага госця шостая ў гэты дзень чарговая сустрэча. Не аказвае ён аднак сваёй стомленасці. Льюцца натхнёныя словы паэзіі. Дасканалыя вершы ўзнагароджваюцца гарачымі апладысментамі. Максім Танк чытае творы з апошняга выдадзенага ў мінулым годзе свайго паэтычнага зборніка «Лірыка». Да глыбіні душы хвалююць слухачоў такія вершы як «Рукі Маці», «Таварышу», «Жэтон», «Роздум», «Сустрэча», «Ave Maria», «Мой хлеб надзенны», «Смаленне кабана» і іншыя. Не менш дас-

(Працяг на стар. 4)

# ПРА ПАВЯТОВУЮ РЭВАЛЮЦЫЮ



Старшыня ППРН у Бельску інж. Л. Пэрак.

Кіраўнікоў Бельскага павета мы засталі на месцы — старшыню павятовай рады інж. Леана Пэрка, яго намесніка Уладзіслава Гаданчука і сакратара Анатоля Гіншта. Словам, дасканалая аказія на размову аб тым, што зроблена і што трэба рабіць.

**— Хутка будзе дваццаць год, калі бельшчане сустракалі савецкія танкі і ўстанаўлялі сваю, народную ўладу.**

— Дваццаць год — гэта, бадай, нядоўгая гісторыя, усяго чацвёртая частка людскога жыцця... — кажа інж. Пэрак.

**— Многія жывуць па дзевяноста і болей год — амаль цэлы век.**

...Народная ўлада на Бельшчыне пачынала сваё жыццё бедна, як і бедным быў народ, выйшаўшы з-пад акупацыйнага рэжыму. Большая частка палёў была незасеяная, 40% разбураных будынкаў, электрычную лямпачку вяскоўцы бачылі толькі ў горадзе, пра меліярацыю і штучныя ўгнаенні не чулі, пабываць у лекара лічылася люксусам, аб лячэнні ў шпіталі ніхто не думаў, вялікая непісьменнасць...

— Як магла шырыцца пісьменнасць, калі да вайны на тэрыторыі павета было толькі чатыры сямікласныя школы, — гаворыць сакратар Гіншт.

**— А цяпер?**

— Роўна на семдзесят больш...

...і плюс шэсць сярэдніх, — дадае Ул. Гаданчук і заўважае: — Успамінаем мінулае, былую забітасць — непрыемнае для старэйшых... Маладое пакаленне слухае гэтага як апавяданне пра кашмарны сон. Не адзін наш кавалер іранічна ўсміхнецца, прачытаўшы ў «Ніве», што да вайны ў нас мелі матацыклы ўсяго-наўсяго чатыры кулакі ды мяшчане. Сёння ў вёсках павета лічба матацыклаў даходзіць да чатырох тысяч, а веласіпедаў не злічыць.

— Змены адбываюцца літаральна на нашых вачах, — гаворыць старшыня Пэрак. — Помню, не так даўно даводзілася добра намагчыся, каб пераканаць гаспадара ў карыснасці штучных угнаенняў...

...а зараз замест пераконваць, вымушаны моцна тлумачыцца, чаму не ўсім адразу зможам даць іх, — жартуе сакратар Гіншт і, як заўсёды, сыпле лічбамі, параўнаннямі. Кажа: Перад 1939 годам усё Беластоцкае ваяводства патрабавала ў год дзесяць тысяч тон штучных угнаенняў (вядома, у першую чаргу панскія фальваркі). Сёлета адна Бельшчына бярэ больш і, каб было, узяла б яшчэ, і яшчэ больш! Людзі лепш разумеюць, умеюць дбаць пра гаспадарку. Вучацца старыя і маладыя. У звыш ста вёсках рэгулярна адбываюцца лекцыі аграномаў для насельніцтва — прыходзяць цэлаю вёскаю, слухаюць. Чытаюць.

**— Не далей, як учора мы атрымалі ліст ад гаспадароў з Піліцкай рады, у якім наракаюць, што аграном Ю. Раецкі мала прысвячае ім часу. Пішуць, што ён «эгаіст», бо ўсю навуку трымае сабе...**

— Факт, што нават старыя гаспадары пачынаюць верыць у сілу і сэнс сельскагаспадарчай навукі, з'яўляецца, так сказаць...

**...павятовай рэвалюцыяй!**



Намеснік старшыні ППРН у Бельску Ул. Гаданчук.

(Працяг на стар. 4)

ШЛЯХАМІ ДВАЦЦАЦІГОДДЗЯ

# ВЯЛІКАЯ АКЦЫЯ „НІВЫ" і „ГРАМАДЫ"

Шляхамі Дваццацігоддзя

Як працуе вялікі сучасны завод, такі, напрыклад, у Фастах, такая, напрыклад, мясарня ці пякарня ў Беластоку? Машыны — мудрыя і паслухмяныя аднаму пальцу чалавечай рукі, які лёгка націскае адпаведны гузік. З машыны шнурком выходзяць разнаколерныя тканіны, каўбасы, буханкі хлеба.

Цікава, напэўна цікава паглядзець такую фабрыку, пахадзіць па ёй, а ўвечары? Увечары пасядзець у глыбокім крэсле тэатра, паглядзець п'есу, спаткацца з артыстамі, якія раскажуць, як працуюць.

Беласток, Варшава і іншыя гарады, іншыя раёны краіны змяняюцца. Растуць будоўлі 20-годдзя. Хто не хацеў бы паехаць выгодным аўтобусам, паглядзець, паслухаць.

Просім. Можна.

Існуе такая ўстанова, якая прывязе, пакажа і ўсё па даступных цэнах. Гэта турыстычна - адпачынковая спулдзельня «Грамада» ў Беластоку.

**«Грамада» супольна з «Нівай» арганізуе вялікую акцыю Дваццацігоддзя,** акцыю папулярызацыі дасягненняў 20 год народнай улады, акцыю, якая рушыць з месца засядзелых у вёсках людзей, адкрые перад імі вялікі прыгожы і багаты свет, пакажа ім рэчы невядомыя, дасць магчымасць культурнай разрыўкі. Чалавек 20-га стагоддзя жыць без гэтага не можа.

**Звяртаемся з просьбай да ўсіх нашых чытачоў, нашых прыяцеляў, прыхільнікаў уключыцца ў нашую акцыю — арганізаваць зборныя экскурсіі з вёсак, мястэчак у горад, у тэатр, на заводы, у ПГР-ы, у годныя ўвагі гістарычныя мясцовасці і на гістарычныя аб'екты. Над азёры і ў горы. У Беласток і Варшаву.**

Звяртаемся да кіраўнікоў школ, праўленняў ГС, малочных спулдзельняў, сельскагаспадарчых гурткоў, гурткоў вясковых гаспадынь, гурткоў ЗМВ і БГКТ. Вы трымаеце ў сваіх руках сродкі і спосабы пазнання шырокага свету. Зрабіце іх даступнымі для сваіх працаўнікоў, сваіх кліентаў, сваіх прыхільнікаў.

Уключыцеся ў вялікую акцыю Дваццацігоддзя, арганізуйце экскурсіі. Шкадаваць не будзеце напэўна. 95 тысяч чал. з нашага ваяводства ўдзельнічала ў 1963 годзе ў экскурсіях «Грамады». На жаль, вельмі малая лічба гэтых тысяч была з усходніх паветаў — Гайнаўскага, Бельскага, Сямяціцкага. Няхай 1964 год рушыць нашы вёскі, пакажа людзям казку нашых дзён.

**Падтрымайце акцыю «Нівы» і «Грамады» — акцыю, якая нясе прыемнасць і навуку.**

Цяпер якраз пара на выезды, пакуль не прыдзе гарачы час палявых работ.

Заказы складаць па тэлефоне і пісьмом на адрас: Spółdzielnia turystyczno - wypoczynkowa „Gromada". Oddział w Białymstoku ul. Warszawska 38 tel. 2470 або на адрас «Нівы».

Школы, гурткі ЗМВ, бацькоўскія камітэты, гурткі ЛьЗС атрымліваюць зніжкі.

Чакаем на водгук. Хто першы?

шляхамі дваццацігоддзя

 

# Літаратурная старонка



Герб Р. А. Хадкевіча з заблудаўскага «Евангелия учительного» 1569 г.

**1 сакавіка гэтага года спаўняецца 400 год ад выдання Іванам Фёдаравым «Апостала» — першай рускай кнігі. З выпадку гэтай гадавіны змяшчаем артыкул П. Юр'ева — галоўнага рэдактара «Рускага голасу» аб дзейнасці Фёдарава ў Заблудаве.**

ПАНЦЕЛЯЙМОН ЮР'ЕЎ

## Беларуска-польскія сувязі маскоўскага першадрукара Івана Федарава

Праца Івана Фёдарава і яго бліжэйшага памочніка Пятра Мсціслаўца ў Заблудаве ўсё яшчэ даследвана параўнаўча мала. Хопіць сказаць, што сярод гісторыкаў, якія цікавіліся лёсам заблудаўскай друкарні, усё яшчэ ідуць спрэчкі аб колькасці назваў кніг выданых у Заблудаве. Існуе пэўнае рознагалоссе і ў сувязі са шрыфтамі, якімі друкаваліся выданні Івана Фёдарава ў Заблудаве.

Мяне асабіста пытанне заблудаўскай друкарні цікавіла перш за ўсё ў сувязі з працай над манаграфіяй, прысвечанай Астрожскай друкарні, якую таксама заснаваў і якою кіраваў Іван Фёдараў.

Гаворачы аб Заблудаве, хацелася б прыпомніць, што над гісторыяй заблудаўскай друкарні працаваў у 1880—1890 гадах скромны настаўнік холмскай семінарыі Барыс Мікалаевіч Балабашаў, які перадаў сваю працу ў рэдакцыю газеты «Западная окраина», якая выдавалася ў Беластоку. Аднак рэдактар В. А. Чумікоў не паспеў надрукаваць больш значнага артыкула, таму што газета была закрыта царскай паліцыяй у 1905 годзе. Аб гэтым успамінае ў сваіх «Беларускіх успамінах» І. Пуцеец. Цікава, што дадатак да «Западной окраины», які выдаваўся ў выглядзе часопіса, друкаваўся з увагі на цэнзуру не ў Беластоку, а ў Кіеве, дзе цэнзура была менш прыдзірлівай.

Заблудаў так блізка расположаны ад Беластока, што можна толькі здзіўляцца, што тэма заблудаўскай друкарні заставалася, шчыра кажучы, па-за кругам зацікаўлення беластоцкіх гісторыкаў і даследвальнікаў. Нешматлікія работы аб гэтым маюць вельмі агульны, больш чым папулярны і кампілятыўны характар. У «Нарысах зямлі мельсцінскай» Ваўжэцкага, у якіх каля дзесятка старонак прысвечана Заблудаву, не знаходзім нават успаміну аб тым, што некалі ў Заблудаве была друкарня Івана Фёдарава.

А між тым з Заблудавам звязаны знамянальныя — старонкі нашага мінулага, якія сведчаць аб братніх сувязях Маскоўскай, Белай і Украінскай Русі. Сам Іван Фёдараў, заснавальнік маскоўскага, беларускага і украінскага кнігадрукавання, аснавапаложнік рускага друкарскага майстэрства з'яўляецца яркім прыкладам, жывым пасведчаннем супольных культурных сувязей не толькі Русі, але і Літвы і Польшчы. Успомнім, што Хадкевіч быў вялікім гетманам літоўскім, а Канстанцін Астрожскі — усясільным вяльможам польскай кароны.

У барацьбе беларускага народа за свае правы, побач з сялянскімі масамі прымалі ўдзел і асобныя прадстаўнікі кіруючых слаёў. Гісторык П. Бярозаў у сваёй кнізе «Першадрукар Іван Фёдараў» піша: «Барацьба ахоплівала шырокія народныя масы. У ёй актыўна ўдзельнічалі і асобныя прадстаўнікі беларускай знаці, якія не страцілі пачуцця нацыянальнай годнасці. Да іх належаў і знатны вяльможа Рыгор Аляксандравіч Хадкевіч, беларус па нацыянальнасці. Класавыя інтарэсы Хадкевіча — пагроза прывілеяванаму становішчу беларускага вяльможы, усё ўзмацняўшаеся падпарадкаванне Літвы польскаму каралю выклікалі ў Хадкевічу пратэст супроць палітыкі панскай Польшчы, пабуджалі да ўдзелу ў барацьбе за нацыянальную свабоду беларускага народа».

Савецкі гісторык падкрэслівае, што Хадкевіч разумеў, што ў барацьбе за беларускую культуру, кніга на роднай мове адыгрывае незвычайна важную ролю. Іменна таму Хадкевіч так горача вітае намер Івана Фёдарава пасяліцца «на Літве». Хадкевіч быў тыпам культурнага і вельмі адукаванага (як на той час) і разумнага феадала. З'яўленне Івана Фёдарава на Падляшшы адпавядала яго планам і мэтам.

Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец прабылі на Падляшшы каля пяці гадоў. Трошкі нацягваючы, можна было б сказаць, што іх пабыўка на Беласточчыне працягвалася да шасці гадоў. У Заблудаў Іван Фёдараў прыехаў з Вільні, дзе яго сустрэў спецыяльны пасол гетмана Хадкевіча. У рэзідэнцыю гетмана першадрукары прыбылі пасля доўгай і цяжкай дарогі. Яны вязлі з сабою формы для алліўкі шрыфта, падрыхтаваныя яшчэ на маскоўскім друкарскім двары, якія цудам засталіся цэлымі. У абозе, з якім яны ехалі, некалькі санэк было нагружана друкарскімі станкамі, прэсамі і рамкамі. У Заблудаў перавозілася асноўнае абсталяванне друкарні.

Цікава, што Хадкевіч вырашыў адкрыць друкарню іменна ў Заблудаве, так сказаць, у сябе пад рукой, а не ў Супраслі, расположанай на 20 км далей, але дзе быў манастыр, была свая царкоўна-беларуская традыцыя (успомнім хоць бы выдатны помнік XI стагоддзя, вядомы пад назвай «Супрасляўскага рукапісу». У супрасляўскім манастыры была вялікая скарбніца — кнігасховішча царкоўна - славянскіх кніг, летапісаў, грамат і спіскаў.

Характэрна, што па тых самых меркаваннях, аб якім мы вышэй успамянулі, Хадкевіч палічыў немагчымым адкрыць друкарню і ў Бельску, які знаходзіцца недалёка ад Заблудава. Там таксама быў праваслаўны манастыр з багатай бібліятэкай. Сведчаць аб гэтым рускія летапісы, матэрыялы каталіцкага рэзідэнта пры каралеўскім двары, запіскі шведскага пасла.

Акружаны дрымучым лесам Заблудаў здаваўся Хадкевічу ідэальным месцам для абаснавання друкарні. Недалёка ад гетманскіх харомаў велізарны драўляны будынак, у якім была школа (адна з нешматлікіх у той час свецкіх школ), быў часткова адведзены пад друкарню, а старэйшыя вучні ў дапамогу і для навукі былі падпарадкаваны Івану Фёдараву.

Пры разгроме маскоўскай друкарні цёмнымі фанатыкамі, нацкаванымі баярамі — ворагамі Івана Грознага, былі знішчаны цэлыя скрынкі гатовых шрыфтаў, матрыцы для іх адліўкі. У Заблудаве амаль увесь шрыфт трэба было адліваць нанова. Толькі нейкім цудам захаваліся рэзаныя па дрэву ініцыялы, а таксама гравюры, прызначаныя для рамак на загалоўныя лісты.

Дзякуючы дакументам, можна дакладна акрэсліць, што ў пачатку ліпеня 1568 года заблудаўская друкарня была ўжо абсталявана. Каля дваццаці беларускіх і літоўскіх юнакоў былі адданы гетманам Хадкевічам у навучанне наборнаму і «ціскальнаму» ўменню. Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец прыступілі да выдання «Евангелия учительного». Кніга, якая мела больш васьмісот старонак, была набрана і надрукавана ў рэкордны тэрмін — за восем месяцаў.

Каб добра ацаніць веліч працы, зробленай першадрукарамі, трэба прыпомніць, што ім трэба было друкаваць кнігу больш як з чатырохсот друкарскіх форм, адціскаючы кожны ліст на ручным станку. Друк быў двуколерны, што яшчэ больш павялічвала колькасць фактычных адбітак. Шрыфт выкарыстаны з матрыц маскоўскага «Апостала», выданага ў 1564 годзе. Цікава аднак, што для некаторых літар (Я і Е) былі зроблены, мабыць, ужо ў Заблудаве дадатковыя матрыцы, трошкі іншага рысунка, чым рысунак гэтых жа літар, выкарыстаных пры друку маскоўскага «Апостала». І. П. Каратаеў у сваім «Апісанні славяна - рускіх кніг, надрукаваных кірылаўскімі літарамі» выданым у СПБ у 1878 годзе, сцвярджае, што гетман Хадкевіч спачатку намерваўся «Евангелие учительное» выдаць на беларускай мове, а не на царкоўна - славянскай. Толькі страх, што пры перакладзе з царкоўна - славянскай на «простую мову» могуць быць дапушчаны памылкі стрымаў Хадкевіча выканаць гэты намер. «Перекладанием давных словиц на простую мову помылки чинятся не малые».

Думаючы аб перакладзе, Хадкевіч меў на ўвазе простых людзей. Гэта ён падкрэслівае ў сваёй прадмове да «Евангелия учительного»: «Помыслил же был если и се, иже бы сие книгу, выразумения ради простых людей, переложите на простую мову».

Слава аб заблудаўскай друкарні хутка дайшла да Вільні. Віленскія купцы вырашылі пераманіць да сябе Пятра Мсціслаўца. Іван Фёдараў сам кіруе выданнем некалькіх далейшых кніг, надрукаваных у Заблудаве.

(Працяг на стар. 6)

Іван Фёдараў у Заблудаве.

Карціна І. Барысава

---

ВІКТАР ШВЕД

# НОВЫЯ ВЕРШЫ

### ЛЯНІВАЯ ВАВЁРКА

— Доля мая доля горка, —  
Скардзіцца ў дупле вавёрка. —  
Я запасаў не прыдбала  
А тут так пахаладала.  
Грозная зіма з марозам  
Выціскае з вачэй слёзы.  
— Бачыш, — кажа ёй суседка, —  
Ты не працавала ўлетку.  
Дык цяпер, мая сястрыца,  
Кладзі зубы на паліцу.

• • •

### КАТОК І КЛУБОК

Бабулька старэнькая ўлетку,  
Ля хаты прысеўшы сваёй,  
Пруткамі рабіла шкарпэткі  
Каб ўнучак не мёрзнуў зімой.

Заплюшчыў бабульцы сон вочы,  
З кален ёй скаціўся клубок.  
Якраз у той час сцежкай крочыў  
Дамоў непаседа — каток.

З клубком стаў свавольнік пагульваць,  
(Ды гэта ж уцеха катам!),  
І разам з клубком ён бабулі  
Шкарпэтку датла разматаў.

Бабулька паклікала дзеда,  
Глянь, здарыўся цуд вось такі:  
Шкарпэтка прапала без следу,  
Адны засталіся пруткі.

• • •

### ПЕРШЫ СНЕГ

На прагулку выйшаў з татам  
Двухгадовы Косцік.  
— Глядзі, тата, колькі ваты  
Параскідваў хтосьці!

Белы камячок расплыўся  
У руках на дзіва.  
— Тата, глянь, наш двор пакрыўся  
Ватай непраўдзівай.

### Пецька запэцкан

Бабулька просіць свайго ўнука:  
— Ты, Пецька, перш за ўсё як след  
Памыць збірайся свае рукі,  
А потым сядзеш за абед.

— Ды я, бабулька, мыць не буду,  
Таму, што мне вады шкада.  
Я маю на руках шмат бруду,  
Ад рук пабрудзіцца вада.

• • •

### Няўдача з задачай

Над задачай мучыўся Валодзя,  
Аніяк яе рашыць не мог.  
«Трэба ад сяброў сцягнуць і годзе,» —  
Так падумаў. З гэтай думкай лёг.

Доўга марыў, лежачы ў пасцелі:  
Дачакацца б мог хвіліны той,  
Каб на месяц людзі паляцелі  
І ўзялі туды яго з сабой.

Некалі настаўнік растлумачыў:  
Пяць разоў лягчэйшае ўсё там.  
І таму на Месяцы задачу  
Вырашыць без цяжкасцей ён сам.



 



Ленін выступае з прамовай на мітынгу, прысвечаным адкрыццю II кангрэса Камуністычнага Інтэрнацыянала. Петраград. 1920 г.

# ЯК АРГАНІЗАВАЎСЯ КАМІНТЭРН

У свеце няма такой сілы, якая змагла б спыніць трыумфальнае шэсце камунізма.

Гісторыя камуністычнага руху мае стагадовую традыцыю. Але рашаючую ролю ў стварэнні сучасных камуністычных партый ва ўсім свеце меў Першы кангрэс Камуністычнага Інтэрнацыянала, які адбыўся сорак пяць год таму назад, 2—4 сакавіка 1919 года, пасля перамогі рэвалюцыі ў Расіі. У ім прынялі ўдзел 52 дэлегаты з трыццаці краін. Цяпер нямногія з іх засталіся ў жывых.

Вось урыўкі з успамінаў дэлегата С. Гопнер.

«На Першы кангрэс Камінтэрна я была выбрана дэлегатам ад Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Украіны. Мы трапілі на другое пасяджэнне кангрэсу апоўдні 3 сакавіка.

У час перапынку таварышы растлумачылі нам аб становішчы спраў на кангрэсе, які пакуль што адбываўся яшчэ як канферэнцыя. Галоўным на кангрэсе стаяла пытанне аб стварэнні Камуністычнага Інтэрнацыянала, але рашэнне яго было адложана да часу прыезду некаторых дэлегацый, якія знаходзіліся яшчэ ў дарозе, у прыватнасці, дэлегацый ад Аўстрыі, балканскіх краін і іншых.

У. І. Ленін выказаў пажаданне, каб кангрэс праходзіў у строга дзелавой абстаноўцы, без асаблівай урачыстасці. Прэзідыум складаўся з трох чалавек: Ленін, Платэн (Швейцарыя), Альберт (Германія); сакратаром быў Клінгер...

У дзень нашага прыезду на пасяджэнні пасля абеду цішыня была неспадзявана парушана. У момант выступлення чарговага аратара ўваходныя дзверы злева з шумам адчыніліся і ў залу не ўвайшоў, а ўварваўся высокага росту чалавек, светлавалосы і злёгку пасівеўшы, у зношанай ваеннай форме. Гэта быў дэлегат нямецкай Аўстрыі таварыш Грубер (Карл Штэйнгардт). Ён кінуўся насустрач Леніну, і яны сталі паціскаць друг другу рукі. У зале пачуліся бурныя апладысменты.

У. І. Ленін даў таварышу Груберу слова па-за чаргою. Праз сорак год у мяне засталася ў памяці гэта сцэна. Таварыш Грубер расказаў аб радасці аўстрыйскіх камуністаў, а таксама беспартыйных рэвалюцыйных рабочых, выкліканай весткамі аб хуткім заснаванні Камуністычнага Інтэрнацыянала. У вострых словах ён бічаваў аўстрыйскую сацыял - дэмакратыю, гаварыў аб няшчасці мас і жыва прадставіў, з якімі цяжкасцямі яны, два дэлегаты, прабіраліся на працягу сямнаццаці дзён праз франты і пагранічныя заставы, ехалі на тэндэрах, у таварных вагонах, пакуль, нарэшце, дабраліся да Масквы...

Асабліва запомнілася выступленне Жака Садуля, сацыяліста, афіцэра французскай арміі. Жак Садуль, будучы сведкаю першых крокаў Савецкай улады, стаў нашым палымяным прыхільнікам, узначаліў камуністычную групу французаў пражываючых у Расіі, і быў прадстаўніком гэтай групы на Першым кангрэсе Камінтэрна.

У дакладзе на кангрэсе Жак Садуль расказаў аб узрастаючых сімпатыях французскіх рабочых да Савецкай Расіі. Ён назваў Кастрычніцкую рэвалюцыю маяком сусветнай рэвалюцыі.

У цэнтры ўвагі кангрэсу быў даклад У. І. Леніна аб буржуазнай дэмакратыі і дыктатуры пралетарыяту, прачытаны пад канец ранішняга пасяджэння 4 сакавіка, і прынятыя кангрэсам ленінскія тэзісы па гэтаму дакладу. У. І. Ленін выкрываў буржуазную дэмакратыю, якая вырадзілася ва ўмовах імперыялізму, асабліва ў абстаноўцы вайны, у найбольш адкрытую і крывавую дыктатуру буржуазіі...

Пытанне аб утварэнні Камінтэрна (III Інтэрнацыянала) было абмеркавана непасрэдна пасля даклада У. І. Леніна. Адзін за другім дэлегаты катэгарычна выказаліся за неадкладнае кантынуаванне III, Камуністычнага Інтэрнацыянала і аб'яўленне канферэнцыі Першым кангрэсам Камінтэрна...»

(а-ся)

ВЕСТКІ з БССР

## Даследванні беларускіх славістаў

У інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР вядзецца вялікая праца па даследваннях у галіне славістыкі. Гэтай праблематыкай займаюцца навуковыя супрацоўнікі створанага ў 1962 годзе ў складзе інстытута сектара агульнага і славянскага мовазнаўства.

Па праблеме славяна - германскія моўныя кантакты Інстытут мовазнаўства АН БССР з'яўляецца перадавым у Саюзе. У 1964 годзе ў Мінску намячаецца правесці другую ўсесаюзную канферэнцыю па гэтай праблеме.

У 1963 годзе выйшла ў свет манаграфія В. Мартынава «Славяна - германскае лексічнае ўзаемадзеянне старажытнага часу».

Навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства АН БССР В. Вярэніч працуе над пытаннямі характара ўзаемадзеяння польскага дыялекта з беларускім у беларускім моўным акружэнні.

У верасні 1963 года В. Вярэніч камандзіраваны па лініі ЮНЕСКО ў Варшаўскі універсітэт, дзе пад кіраўніцтвам вядомага польскага вучонага В. Дарашэўскага працягвае навуковыя доследы. Тройчы ён дакладваў аб некаторых выніках свай працы на пасяджэнні кафедры беларускай мовы Варшаўскага універсітэта. У складзе групы польскіх вучоных - мовазнаўцаў, сярод якіх былі прафесар В. Дарашэўскі і маскоўскі прафесар В. Арлова, В. Вярэніч прыняў удзел у дыялекталагічнай экспедыцыі ў Гарволінскае (ПНР) па збору матэрыялаў для «агульнаславянскага лінгвістычнага атласа».

## Беларуска-польскія сувязі маскоўскага першадрукара Івана Фёдарава

(Працяг са стар. 3)

У сакавіку 1570 года першадрукар заканчвае працу над «Псалтыром і Часасловам». У кнізе больш шасцісот старонак, а ў скарочаным выданні, без заключнага слова, напісаным «простай». г. зн. беларускай мовай, на трыццаць старонак менш.

Дзейнасць друкарні, з-пад станка якой, апрача кніг, выходзілі пасланні гетмана Хадкевіча, акружныя граматы, звароты да «простага поспільства», была соллю ў вачах каралеўскага двара. Хадкевіч змагаўся супроць уніі. Каталіцкая шляхта настройвала караля супроць беларускага гетмана, палохаючы яго відмам магчымага ўзброенага паўстання з боку беларускага феадала.

У 1569 годзе была падпісана Люблінская унія. Хадкевіч пацярпеў паражэнне ва ўсіх сваіх планах і вымушаны быў прымірыцца з гэтым. Хутка яму далі зразумець, што існаванне заблудаўскай друкарні ім не падабаецца.

Хадкевіч падзякаваў друкару, аддаўшы яму «волость отменную», г.зн. маёнтак. Друкарня аднак перастала існаваць, а яе абсталяванне Хадкевіч велікадушна падарыў Івану Фёдараву, хоць і раіў яму жыць з даходаў, якія даваў маёнтак і кінуць друкарскую справу.

У 1572 годзе Іван Фёдараў пакінуў Заблудаў.

ПАНЦЕЛЯЙМОН ЮР'ЕЎ



Помнік Івану Фёдараву ў Маскве.




Ужо трэці месяц савецкі разведчык Савушкін безвынікова шукаў сустрэчы са Шчукіным. Мэта: прыцягнуць да супрацоўніцтва з савецкай разведкай. Зразумела, Рудзіну зрабіць гэта было б куды лягчэй. Але, калі Шчукін адкіне прапанову, гэта азначала правал Рудзіна. Вырашана: зрабіць гэта Савушкін. Сустрэча павінна адбыцца за межамі «Сатурна». Прычына тая ж: калі спроба акажацца безвыніковай, Шчукін будзе мець менш шанцаў захапіць Савушкіна. Ды і Савушкіну было лягчэй манеўраваць, чым Рудзіну. Не было ж ніякіх падстаў лічыць на падатлівасць Шчукіна. Найбольш надзейнай зброяй супраць яго было пісьмо ад жонкі і сына. Пісьмо гэта не магло не ўсхваляваць толькі чалавека з каменным сэрцам. Жонка і сын Шчукіна, атрымаўшы паведамленне ваенкамата, амаль тры гады лічылі яго без вестак загінуўшым. І раптам яны даведаліся, што ён жыве, і атрымалі магчымасць напісаць яму пісьмо. Ім не паведамілі, дзе ён цяпер знаходзіцца: ім проста сказалі, што ён партызаніць у тыле ворага. Гэты абман быў неабходны. Урэшце, калі Шчукін знойдзе ў сябе сілы парваць з гітлераўцамі і пачне сумленна служыць Радзіме, вярнуўшыся да сваіх блізкіх, ён сам вырашыць, што ім сказаць аб першым годзе вайны — праўду ці гэту хлусню. Калі ж пісьмо не выкліча чаканага ўздзеяння на Шчукіна і Савушкін убачыць, што нічога больш ён зрабіць не зможа, яму давядзецца тут жа на месцы знішчыць Шчукіна.

104

Пачынаючы аперацыю, Савушкін пакінуў базу Маркава і пасяліўся ў падпольшчыцы. Але там ён толькі начаваў, а ўвесь дзень праводзіў паблізу зоны «Сатурна». Шчукін быццам ведаў, хто яго чакае. За два месяцы ён выйшаў за межы зоны «Сатурна» толькі два разы і да гэтага не адзін. Першы раз Шчукін з групай працаўнікоў «Сатурна» пайшоў у кіно. Савушкін упарта чакаў яго каля кінатэатра. Але надзея, што застанецца ён сам, не апраўдалася. Выйшаўшы з кіно, сатурнаўцы ўгаварылі Шчукіна пайсці ў казіна. Савушкін быў блізка і чуў іх гутарку. І ля казіна Савушкін доўга чакаў яго. І зноў яны выйшлі кампаніяй і разам адправіліся ў «Сатурн». Другі раз Шчукін адлучыўся ў горад у суправаджэнні двух супрацоўнікаў «Сатурна». Савушкін устанавіў, што яны хадзілі купляць скураное пал'то. І зноў Шчукін ні на мінуту не заставаўся адзін. Сваю няўдачу Савушкін перажываў вельмі востра.

Стварэнне пры «Сатурне» групы «Два ікс», у якую ўваходзіў Шчукін, патрабавала прыспешыць аперацыю. Маркаў вырашыў крыху яе ўпрасціць. Ён дазволіў Савушкіну падыйсці да Шчукіна і адклікаць яго ўбок, нават калі той будзе не адзін. Савушкіна ўцешыла гэта палёгка, але яна скрывала ў сабе велізарную небяспеку для яго самога. Калі Шчукін адмовіцца або пакліча на дапамогу, ён павінен будзе знішчыць Шчукіна. Але якім бы спосабам ён гэта не зрабіў, у яго самога шанцы на выратаванне катастрафальна змяншаліся.

...Усё здарылася інакш у гэты суботні красавіцкі дзень. Савушкін сядзеў на лавачцы ў садочку, адкуль добра быў відны выхадны шлагбаўм «Сатурна». Гэта быў адзін з яго назіральных пунктаў, і называўся ён «Субота» — самы безнадзейны пункт. Калі Шчукін і выйдзе, ён не будзе адзін: у суботні дзень адпраўляліся ў горад шматлікія супрацоўнікі «Сатурна».

Савушкін ужо збіраўся ўстаць, каб крыху прайсціся па вуліцы, як раптам убачыў каля шлагбаўма знаёмую каржакаватую фігуру Шчукіна. Савушкін за-

105

мёр: Шчукін быў адзін. Гэта было падобнае на сон. Шчукін адзін, зусім адзін памалу ішоў па вуліцы. Дайшоўшы да скрыжавання, ён павярнуў налева. Савушкін хутка абыйшоў садзік і паралельным завулкам выйшаў насустрач Шчукіну. Савушкін прыглушыў хваляванне, выняў з пачкі сігарэту і, калі Шчукін зраўняўся з ім, сказаў:

— Выбачайце, калі ласка, ці няма ў вас запалак?

Шчукін спакойна паглядзеў на яго, выняў з кішэні і працягнуў яму карабок запалак. Назіраючы, як Савушкін прыкурвае, ён, усміхаючыся, сказаў:

— Вы, я прыкмеціў, ужо даўно хочаце закурыць менавіта ад маіх запалак.

Савушкін выпусціў струмень дыму і, звяртаючы запалкі, сказаў:

— Гэта праўда. Але справа не ў тум, я павінен не толькі прыкурыць менавіта ад вашых запалак, я павінен перадаць вам прывітанне ад Ольгі Вікенцеўны і ад Косці.

Гэтага Шчукін не чакаў. Ён нават зрабіў крок назад.

— Не можа быць! — прамармытаў ён.

— Так, так, — усміхнуўся Савушкін. — І не толькі прывітанне, але і пісьмо. Давайце пойдзем адсюль, пабач ціхі садзік.

Шчукін пайшоў з Савушкіным. Ішлі моўчкі. У садзіку Шчукін сеў побач Савушкіна і выцягнуў руку.

— Пачакайце, спачатку пагутарым. Я хачу, каб вы ведалі, каго я прадстаўляю.

— Я здагадваюся, — ціха адказаў Шчукін. — Я прыкмеціў вас, калі хадзіў з кампаніяй у кіно. Калі хочаце ведаць, цяпер я ішоў спецыяльна, каб сустрэцца з вамі.

— Чаму і навошта?

— Вельмі цяжка коратка адказаць на ваша пытанне. Але ўсё ж хто вы і навошта я вам патрэбны?

Савушкін дзесяткі разоў вёў у думках гэту гутарку ў самых розных варыянтах, але словы Шчукіна, што

106

# ТРЫБУНА чытачоў

## У МАСЕВЕ СПАДЗЯЮЦЦА НА НАСТАЎНІКАЎ

Да вайны Масева было адной з большых вёсак Гайнаўшчыны. Але ў вайну гітлераўцы вывезлі яе жыхароў, а вёску спалілі. Пасля вайны масеўцы вярнуліся і пачалі адбудоўваць свае «гнёзды». Гэта былі самыя цяжкія гады для жыхароў вёскі. Многа сем'яў засталося за граніцай, у Савецкай Беларусі. Вёска цяпер стала меншай, але затое шмат прыгажэйшай. Больш прастору цяпер. Асабліва прыгожыя ў масеўцаў жыллёвыя дамы. Людзі сталі жыць заможна. Гаспадаркі ў іх невялікія. Але ў пушчы заўсёды ёсць заробак. Зімой на гаспадарцы працы мала. Вось у гэты час мужчыны добра зарабляюць у лесе. Летам масеўцы збіраюць ягады, маліну, а восенню грыбы, арэхі.

У 1963 годзе пабудавана ў вёсцы прыгожая крама. Людзі абзавяліся радыёапаратамі, матацыкламі, сельгасмашынамі. Калі ў вёсцы будзе праведзена электрычнае святло, многія купяць тэлевізары. Ад студзеня ў Масева пачаў пастаянна курсаваць аўтобус ПКС з Беластока. Зараз у вёсцы зусім іншы рух.

Толькі культурнае жыццё тут яшчэ занядбанае. У вёсцы многа здольнай моладзі. Прыгожа спяваюць і любяць песні. Але няма тут адпаведнага арганізатара. У другіх вёсках Гайнаўшчыны такім арганізатарам з'яўляюцца настаўнікі. У Масеве таксама ёсць школа. І таму моладзь разлічвае на настаўнікаў, што яны дапамогуць пачаць культурную дзейнасць.

**В. Харкевіч**
Старое Ляўкова

## ЛІСЫ І ДРУГІЯ...

Зіма сёлета, як дагэтуль, не вельмі нам надакучыла. Аднак мода на ўсялякага роду мехавую вопратку ўтрымоўваецца. Лісы, зайцы і другія валахатыя звяры сотнямі ідуць пад нож, каб толькі кожная жанчына магла хоць кавалак скуркі прышыць да сваёй вопраткі. Дарэчы, атрымоўваецца даволі прыгожая цэласць, вось як на здымку.

Тэкст і фота (в.р.)

## Вялікія дасягненні

Сетка вясковага гандлю з кожным годам удасканальвае сваю дзейнасць. Гмінныя спулдзельні (ГС-ы) Беласточчыны за 1963 год маюць вялікія дасягненні. У ваяводскім маштабе чыстыя даходы ГС-аў за мінулы год складаюць суму 60 мільёнаў зл. (мх)

## Катлоўскай моладзі не хапае ініцыятывы

У Катлах, на Бельшчыне, моладзі хоць адбаўляй. Гэта таленавітыя і жыццерадасныя людзі. Быў час, калі нават ставілі пастаноўкі. Але на гэтым закончылася. Да добрых спраў катлоўская моладзь мае запал, але... саламяны. У 1958 годзе дабіліся дазволу на пабудову святліцы. Зроблена каля 1000 пустакаў грамадскім чынам. І на гэтым канец. Пустакі гадамі ляжалі без догляду. Парасцягвалі іх людзі, а святліцы ў вёсцы няма.

Моладзь любіць танцавальныя вечарынкі, але ў Катлах няма дзе арганізаваць іх. Летам робяць «музыкі» на пляцы каля школы, а зімой ніхто пусціць у хату не хоча. І так таўчэцца нашая моладзь у святочныя дні з кута ў кут без справы ды наракае на нуду. Культурнай дзейнасці ў вёсцы ніхто не праводзіць, бо няма месца. Сумна. Ініцыятывы не хапае.

**Коля Навумчук**
Катлы.

## Есць каму пабудаваць

У Чыжах была запланавана будова пункта аховы здароўя. Да гэтага часу не было такой установы, якая б узялася за пабудову яго. Вось таму ваяводскія ўлады выкрэслілі з плана гэтую будову ў 1964 годзе. На выручку прыйшоў ПЗГС у Гайнаўцы. Нядаўна арганізавалася там рамонтна - будаўлянае прадпрыемства і яно згаджаецца пабудаваць у Чыжах пункт аховы здароўя. (мх)

## ДАРОГА МЕХАНІЗАЦЫІ

Сельскагаспадарчы гурток у Райску, Бельскага павета, існуе ўсяго 2 гады. Але за гэты кароткі перыяд зрабіў ён немалыя поспехі ў галіне механізацыі сельгасвытворчасці. Гурток мае два трактары з камплектамі сельгасмашын, абмалотачны агрэгат, бульбакапалку, адну трактарную сеялку і тры конныя. Зараз у Райску найцяжэйшую працу — капанне бульбы, — мала хто выконвае старым метадам. Карыстаюцца бульбакапалкай. Аднак, мабыць, найбольшым дасягненнем механізацыі з'яўляецца тое, што вёска перастала сеяць уручную. А гэта вельмі спрыяе павелічэнню ўраджайнасці палёў.

У мінулым годзе фінансавыя абароты сельгасгуртка склалі звыш 100 тыс. зл. Атрымана каля 50 тысяч чыстага даходу. Гэта перш за ўсё заслуга райскіх трактарыстаў. А трактарысты тут сапраўды выдатныя, з вялікім вопытам. Напрыклад, Пятро Гадзіна ўжо 14-ты год упраўляе жалезным канём, а Уладзімір Данілюк — 11 год. Яны як звычай атрымоўваюць добрыя вынікі ашчаднасці паліва і, што найважнейшае, грошы зарабляюць для гуртка не на транспарце, а працай у полі.

У Райску многа хутароў адлеглых ад вёскі. Да іх яшчэ не праведзена электрычнае святло. І таму гурток намераны купіць яшчэ адзін абмалотачны агрэгат з нафтавым рухавіком. Каб усе маглі карыстацца дабрадзействамі сельгастэхнікі. (вб)

## Грамадскай сілай

Каб лепей і выгадней было, каб культурней і прыемней — вось мэта працы грамадскім чынам. Людзі працуюць, выконваюць велізарную работу бясплатна. Шмат працуюць пры пабудове школ, святліц, раміз і крам, пры пабудове і рамонце вуліц і дарог. Менавіта дарожныя работы грамадскім чынам на Беласточчыне самыя папулярныя. За мінулы год кошт іх замыкаецца сумай 100 мільёнаў злотых. А ўсе іншыя бясплатныя работы акрэсліваюцца сумай 180 мільёнаў злотых. Бягучы год будзе яшчэ багацейшым працай грамадскім чынам. Ва ўсіх паветах ідуць гутаркі, каб ахвярнай працай павітаць XX гадавіну народнай Польшчы. (мх)




## Для вас, мужчыны

Дарагія мужчыны! Хутка 8-е сакавіка. Не забудзьце ж зрабіць прыемнае Вашай маці, жонцы, сястры, сяброўцы. Зазірніце, калі ласка, у магазін, купіце падарункі. Мы Вам дапаможам, падкажам, што каму можна падарыць.

Муж робіць падарунак сваёй жонцы па яе жаданню. Юнаку трэба падумаць аб выбары падарунка сваёй знаёмай, сяброўцы. Добра падарыць кветкі, духі, прыгожую сумку, пальчаткі. Дзяўчатам і маладым жанчынам прыемна будзе атрымаць нядарагое ўпрыгожанне — каралі, брошку. Заўсёды добры падарунак — кніга. Пажылой жанчыне — бабулі, маці лепшы падарунак — хустка або матэрыял на блузку, сукенку.

Мужчына жанчыне або юнак дзяўчыне ні ў якім разе не павінны дарыць рэчы інтымнага туалету або прадметы адзення і абутку. Гэта бястактна. Калі вы атрымаеце вымову са зваротам падарунка, наракайце на сябе — вы гэта заслужылі.

Ніколі не рабіце падарункаў ананімна. Гэта выклікае пачуццё здзіўлення і нялоўкасці. Выключэнне складаюць толькі кветкі, якія падносяць звычайна жанчынам у розных выпадках. Жанчыны, безумоўна, не паграшаць супраць правіл добрага тону, прыняўшы гэты знак увагі.

Падносіць падарункі і прымаць іх пажадана з захаваннем некаторых правіл. Напрыклад, не ўпакоўваць падарунак у газету: падносячы букет кветак, трэба аслабаніць яго ад папяровай абгорткі.

Прымаючы падарунак, не адкладвайце яго ўбок, не паглядзеўшы. Той, хто дарыць, хоча зрабіць вам прыемны сюрпрыз. не адмоўце ж і яму ў прыемнасці пераканацца ў гэтым.

**СЭРЦАЙКА**

## КІНО

**Праграма на 2—8.III.1964 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Ewakuacja" (radziecki), 3—4. „Weekendy" (pol.), 5—6. „Kiermasz" (NRF) 7—8.

**Кляшчэлі**
„Wąż morski z Loch Ness" (angl.), 3—5. „Zbrodniarz i panna" (polski), 6—8.

**Дубіны**
„Siedem nianiek" (radz.), 7—8.

**Нараў**
„Po latach" (radz.), 4—8.

**Нараўка**
„Torreador" (meksykański), 4—8.

**Чаромха**
„Zamek z bajki" (NRD), 3—5, „Weekendy" (polski), 6—8.

**Чыжы**
„Przepustka na ląd" (radz.), 4—8.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Smarkula" (polski), 4—8.

**Бранск**
„Koledzy" (radz.), 3—5. „Czarny monokl" (franc.), 6—3.

**Гродзіск**
„Poślubny rejs" (angl.), 7—8.

**Орля**
„Kozara" (jugosł.), 4—8.

**Райск**
„Ulica Andrzeja Krutikowa" (radz.), 4—8.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Stworzenie świata" (czeski), 3—4. „Zabawa na sto dwa" (angl.), 5—6. „Haszek i jego szwejk" (radz.), 7—8.

**Міхалова**
„Droga do przystani" (radz.), 3—5. „Nieznajomi z pociągu" (USA), 6—8.

**Супрасль**
„Zwycięstwo nad Wołgą" (radziecki), 3—5. „Gdzie jest generał" (polski), 6—8.

**Чорна Беластоцкая**
„Kiermasz" (NRF), 3—4. „Wszyscy do domu" (włoski), 5—6. „Dom z facjatą" (radz.), 7—8.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Gdzie rzeki błyszczą w słońcu" (czeski), 3—5. „Niewidomy muzyk" (radz.), 6—8.

**Мілейчыцы**
„Wąż morski z Loch Ness" (angl.), 3—5. „Zbrodniarz i panna" (polski), 6—8.

**Нурэц**
„Poławiacze gąbek" (radz.), 3—5. „Nieznajomi z pociągu" (USA), 6—8.

**Сідра**
„Przygody Kiosza" (radz.), 3—5. „Diabelska przepaść" (czeski), 6—8.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Rodzaj miłości" (angl.), 3—5. „Krążownik szos" (franc.), 6—8.

**Сухаволя**
„Dziewczęta" (radz.), 3—5. „Ostatni kurs" (polski), 6—8.

**Шудзялава**
„Ludobójcy" (szwedzki), 4—8.

**Янаў**
„Ludzie błękitnego płomienia" (radz.), 3—4. „Nasz kochany potwór" (angl.). 5—6. „Gwiaździsty bilet" (radz.), 7—8.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Gangsterzy i filantropi" (polski), 9—10.

**Новы Двор**
„Trudne godziny" (radz.); 7—8.

**Ружаны Сток**
„Wszystko dla pań" (franc.), 3—4. „Z rąk do rąk" (NRF), 5—6. „Pilot Ben" (radz.), 7—8.

## Сумуюць па кінаперасоўцы

Жыхары Локніцы, на Бельшчыне, надзвычай любяць кіно. У зімовы час кіно — іх адзіная ды найбольш прыемная разрыўка. Калі прыязджае ў вёску кінаперасоўка, школа абавязкова запаўняецца гледачамі да апошняга месца. А часам нават месц не хапае ўсім. Бо гледачы прыходзяць нават з Мякіш і Падрэчан.

Але вось ад лістапада мінулага года кінаперасоўка ў Локніцы не паказалася. Мабыць, забыла дарогу ў нашую вёску. Шкада. Па ёй сумуюць жыхары Локніцы.

**А. Дэмідзюк**
Локніца

---

ён прыкмеціў яго даўно, былі для Савушкіна нечаканасцю. Цяпер трэба было адразу выкладаць усе свае карты. А магло быць і іншае — што Шчукін пайшоў на гэту сустрэчу, падрыхтаваўшы засаду. Але адступаць няма куды.

— Скажыце, вас уладжвае ваш цяперашні лёс здрадніка свайго народа? — спытаў Савушкін.

— Не.

Савушкін маўчаў. Гульня ці шчырасць? У вачах Шчукіна было нешта такое, што не выклікала да яго даверу.

— Давайце мне пісьмо, — ціха сказаў Шчукін.

Савушкін маўчаў.

— Няўжо тое, што вы сказалі аб пісьме, толькі прынада? — спытаў Шчукін, і ў вачах яго бліснула злосць.

— Пісьмо ў мяне ў кішэні, — спакойна сказаў Савушкін. — Але я не ўпэўнены, што яно дасць вам радасць. Ваша жонка і сын не ведаюць, што вы здраднік. — З гэтымі словамі Савушкін дастаў пісьмо і падаў яго Шчукіну.

Калі Шчукін чытаў пісьмо, рукі яго дрыжалі. На твары з'явіліся чырвоныя плямы.

— Хто сказаў ім, што я партызан? — прашаптаў ён.

— Мы, — адказаў Савушкін. — Нам паказалася, што такі абман не будзе подлым. Калі вы акажацеся сапраўдным чалавекам, а не закончаным нягоднікам, лепш будзе, каб сям'я ваша нічога аб вашай здрадзе не ведала. Ну, але калі... Тады перажыванні вашых

107

блізкіх не могуць нікога цікавіць.

Шчукін думаў аб чымсьці. Потым зноў пачаў чытаць пісьмо. Ён ад хвалявання душыўся.

— Што вы ад мяне хочаце? — спытаў ён, дачытаўшы.

— Спачатку я хачу ведаць: ці вы ўяўляеце, колькі вам трэба зрабіць, каб заслужыць на ласку Радзімы?

— Усё, што ў маіх сілах, я зраблю.

— Да вас у «Сатурне» звернецца наш чалавек. Ён спытае ў вас, ці гатовы адказ для Ольгі Вікенцеўны і Косці. Вы адкажаце: гатовы. І гэты чалавек скажа вам, што вам трэба рабіць. Запамяталі?

— Так. А калі гэты чалавек не прыдзе?

— Будзьце спакойны, прыдзе. А цяпер расстанемся.

Праз два дні ў сталоўцы ў час абеду да Шчукіна падыйшоў Рудзін. Яны доўга гутарылі па прычыне паведамленняў, атрыманых ад агентаў аб зменах у асабістай дакументацыі ваеннаслужачых. Рудзін назіраў за субяседнікам: ці змянілася ў ім хоць што-небудзь пасля сустрэчы з Савушкіным? Але Шчукін нічым не выдаваў сябе. Ён быў, як заўсёды, стрыманы і пануры. Гэта нават насцярожвала.

І ўсё ж Рудзіну трэба было дзейнічаць. Ён спытаў, ці гатовы адказ на пісьмо жонкі і сына.

Шчукін уважліва паглядзеў на Рудзіна і ледзь прыкметна ўсміхнуўся:

— Адказ гатовы.

Працяг за тыдзень

108

